ISSN 0132-5957

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 3 (сакавік) 2014




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**МАБІЛЬНЫ ФОТАПРЫКОЛ**

**Хітрыкі маркетынгу**

**Пераможца варон**

*Іранеска*

**+ Вучымся разбірацца ў мастацтве**

*Міні-дапаможнік*

**1 кра-савіка**

*Спецвыпуск*



**Актуальныя карыкатуры Аляксандра Каршакевіча**




— Пасля пабудовы большага склада ў нас хоць у футбол гуляй!



У далёкія краіны.










**Віктар РЭЧЫЦ**



# ФАНТАН

*Байка*

Вёз Гаспадар па горадзе аднойчы
Сваю Свінню. Спыніўся каля плошчы
І адлучыўся мо на пяць мінут.
Свіння зірнула – што такое тут?
Ляціць уверх і пырскае вада,
А потым пачынае ападаць.
Не даспадобы гэта ўсё Свінні:
Не ловіць вока цалкам вышыні.
Ды і ў вачах такое мільгаценне,
Што лепей паляжаць было б у цені.
Унізе ж той вады даволі шмат,
А гразі – дзіва дзіўнае! – няма.
– Каму патрэбна гэта збудаванне? –
Адрасавала Голубу пытанне.
– Фантанам называецца яно,
Пабудавана тут ужо даўно.
Дарослыя і драбяза дзень кожны
Любуюцца відовішчам прыгожым, –
Не прамарудзіў Галубок з адказам.
Пачуў ад віславухае адразу:
– А мне найпрыгажэйшае карыта,
З якога наядаюся дасыта.
Калі б на плошчы гэтай жалуды
Ляталі, ападалі, то сюды
І я накіравалася б тады.
А што, скажы, рабіць мне ля вады?
Птах запярэчыць той Свінні памкнуўся,
Ды не паспеў, бо Гаспадар вярнуўся.

---

Мы ведаем свіней і іхні род:
Жывуць, каб есці, не наадварот.
На жаль, сярод людзей такія ёсць:
Трыбух уласны – вось іх прыгажосць.

*г. Івацэвічы.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.



– Кажуць, гэты начальнік браў хабару да чорта. Ляжыць вось, чакае нечага...

Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.

## Думкі ўголас

І той, хто жыве адным днём, цікавіцца прагнозам надвор'я на заўтра.

Пакінуты чалавекам след у жыцці не залежыць ад памеру абутку.

Сонца свеціць усім аднолькава, але грэе па-рознаму.

У жыцці ўсё так сур'ёзна, што без смеху не абысціся.

У акрыленых людзей заўсёды лётнае надвор'е.

Вугал падзення чалавека часта вызначаецца сарака градусамі.

Грошы ў чужой кішэні не грэюць.

Праца шмат ад чаго выратоўвае. У тым ліку і ад ляноты.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*







Мабільны фотапрыкол

Клік!




## Хітрыкі маркетынгу

Дружа Вожык! Чаго толькі няма на прылаўках нашых магазінаў! Заходзіш – вочы разбягаюцца. І ўпакавана прыгожа, і выглядае апетытна. Аж у жываце пачынае бурчаць. Але я стрэляны верабей! Мяне прыгожай упакоўкай не купіш.

Хаця здараецца і мне даць слабіну. Паддаюся на хітрыкі маркетынгу. Вось нядаўна зайшоў у магазін і не вытрымаў, набыў некалькі тавараў, якія мяне вельмі зацікавілі.

Ну, як прайсці міма, калі на цябе з паліцы пазіраюць «Семкі шчасця»? Паспрабаваў іх. Спачатку думаў, што падманулі мяне вытворцы тавару. Але праз некаторы час зразумеў, што не магу спыніцца – лускаю і лускаю. Язык баліць, вусны прыпухлі… І ведаеш, я сапраўды быў неверагодна шчаслівы, калі гэтыя семкі нарэшце скончыліся!

А яблык «Я цябе кахаю»? Сапраўдная знаходка для тых, хто баіцца прызнацца ў вочы ў сваіх пачуццях. А тут такая «сакавітая» магчымасць! Вось толькі я так і не дапетрыў, якім чынам вытворцы зрабілі такі надпіс? Чуе маё сэрца, што без хіміі тут не абышлося. Ну, а далей павінна ўжо спрацаваць і хімія кахання…

Жадаю ўсім карысных і смачных пакупак!

**Міхась СТРЫЖ,**
*г. Мінск.*









Малюнкі Алега ПАПОВА.

# Навіны з МУС: матай на вус...

## Пераблытаў кішэні

***Аршанскі раён.*** Часам кожнаму чалавеку здараецца нешта пераблытаць. Гэта можа быць што заўгодна: нумар аўтобуса, дзень тыдня, адрас, дата нараджэння знаёмага. Але адзін мясцовы жыхар пераплюнуў усіх рассеяных. Седзячы ў зале чакання вакзала станцыі Талочын, ён пераблытаў... кішэні. У іх мужчына знайшоў два мабільныя тэлефоны. Не паверыўшы свайму шчасцю, ён, задаволены, пакінуў вакзал.

Неўзабаве рассеяны злодзей быў затрыманы міліцыянерамі. Зараз вядзецца следства, якое наўрад ці што пераблытае.



## Лабараторыя... у шафе

***Мінск.*** Вопытныя кветкаводы ведаюць, што адны расліны непатрабавальныя ў доглядзе, а да іншых неабходны асаблівы падыход. Асобныя вазоны прагнуць сонечнага святла і любяць стаяць на падаконніку, другім жа патрэбна больш прыглушанае святло ці ўвогуле паўцень — іх трэба хаваць у глыбіню пакоя.

Але, мабыць, ніхто з кветкаводаў і не здагадваецца, што некаторыя расліны можна вырошчваць... у шафе. Такое адкрыццё зрабіў малады мінчанін. Вось толькі цікавілі яго не бягоніі і фікусы, а — марыхуана.

Міліцыянеры знайшлі ў яго кватэры амаль кілаграм гэтай наркатычнай расліны, якая прызначалася для продажу. У шафе мінчанін зрабіў сапраўдную лабараторыю з абсталяваннем, сістэмай вентыляцыі, кулерамі, датчыкамі і іншым.

Цяпер кайф за сваё вынаходніцтва «лабарант-аграрый» адчуе ў іншым месцы.



## Дапазычаўся

***Новалукомль.*** Усім вядома выказванне: «Пазычаеш чужое — і на час, а аддаеш сваё — і назаўсёды». Мабыць, кожны адчуў, што вяртаць даўгі — справа вельмі непрыемная! На што толькі часам людзі не ідуць, каб пазбегнуць гэтай долі. Напрыклад, мясцовы бізнесмен Яўген Прысада палічыў за лепшае апынуцца за кратамі, чым аддаваць даўгі.

Нібыта для развіцця свайго бізнесу ён напазычаў у знаёмых грошай на агульную суму больш за два мільярды рублёў. А вяртаць іх не спяшаўся: трэба ж аддаваць свае кроўныя.

Узбуджана крымінальная справа. Пацярпелых просяць звярнуцца ў міліцыю. І раяць пазычаць свае грошы абачліва.




***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

**Міхась МІРАНОВІЧ**

# МІРАНІЗМЫ

## Сакавіцкая ўсмешка

Верабей
Ў падстрэшшы
завіхаецца...
Сакавік яшчэ
Нам дня прыбавіў...
Чалавек ідзе
І ўсміхаецца —
Можа, зубы новыя
Уставіў?..



## Пакуль што...

— Гадоў вам
колькі зараз,
Цётка?
— Ды хутка
Семдзесят міне.
— Ці замужам?
— Не, мая котка, —
І дадала:
— Пакуль што — не!..



## Хінецца

Болей жвавым
Быў калісь Кандрат,
Ды імпэту
Выбралася квота:
Ён раней
Хінуўся да дзяўчат,
Зараз жа, як вып'е, —
Больш да плота.



*г. Віцебск.*




Ігнат Прычэпка ўсе свае трыццаць пяць гадоў прасядзеў на шыі ў бацькоў. Хлопец, праўда, спрабаваў некалькі разоў уладкавацца на працу, але ў яго слаба што атрымоўвалася. То ён з начальнікам характарам не сыходзіўся, то праца была цяжкая і манатонная, то графік не падабаўся, то зарплата маленькая. Ды і дзіўная мара пра тое, каб мець многа грошай, але зусім пры гэтым не напружвацца, заўсёды блукала дзесьці ў яго галаве.

Яшчэ адной прыкметнай рысай унутранага свету Ігната была цвёрдая ўпэўненасць у тым, што ён – творчая асоба і ў яго столькі талентаў, што які-небудзь Леанарда да Вінчы нават побач не стаяў. Шкада толькі, што Прычэпка нават не здагадваўся, якімі здольнасцямі надзяліла яго прырода...

Але неяк, седзячы ў інтэрнэце, Ігнат наткнуўся на адзін артыкул. У ім расказвалася пра сучаснае выяўленчае мастацтва, пра тое, што малююць розныя абстракцыяністы, кубісты, экспрэсіяністы і іншыя. І самае галоўнае: прыводзіліся прыклады карцін і сумы грошай, за якія іх купілі калекцыянеры. (Каб вы, паважаныя чытачы, зразумелі, чым так уразіўся наш галоўны герой, мы пакажам частку гэтых «шэдэўраў»).

І ў Ігната з'явілася непераадольнае жаданне стаць сучасным мастаком. Тым больш ён успомніў, што яшчэ ў школе на ўроках малявання яго заўсёды хваліла настаўніца. Прычэпку зусім не хвалявала тое, што ніякіх мастацкіх вучылішчаў ні нават якіх-небудзь курсаў ён не заканчваў. Ды і навошта! У артыкуле ж гаварылася пра тое, што свае карціны мастакі малююць дзякуючы надзвычайнай эмацыянальнасці, асаблівым душэўным парывам і свайму арыгінальнаму бачанню свету.

– Чым я горшы? Я яшчэ і лепш магу намаляваць за гэтых замежных удачлівых мастакоў, – вырашыў хлопец.

Цэлы тыдзень Ігнат хадзіў сам не свой. Спрабаваў прыдумаць сюжэт карціны, злавіць музу за хвост, каб нейкая невядомая дробязь неспадзявана падштурхнула яго да стварэння сапраўднага шэдэўра.

Маці нават пачала хвалявацца, што з сыночкам нешта здарылася, што ён захварэў ці якая дэпрэсія падкралася:

– Ігнацік, у цябе ўсё добра? Чаго ты ходзіш, як вады ў рот набраўшы? Што здарылася, скажы?

– Нічога ў мяне не здарылася. Я, мама, мастаком вырашыў стаць. Буду маляваць карціны, а потым прадаваць іх за вялікія грошы, – ганарліва адказаў Ігнат.

– Ну паспрабуй, можа, што і атрымаецца, – падтрымала сына маці і ўздыхнула.

Нарэшце наш «мастак» узяўся маляваць. Чаго ён толькі не вырабляў! Рукамі махаў, пэндзлікамі кідаўся, нешта напяваў і дрыгаў нагамі, нават нос у фарбу апусціў і павадзіў ім па карціне. Бацька, які зазірнуў у пакой, каб паглядзець, што за вэрхал здарыўся, толькі пальцам пакруціў каля скроні. Маўляў, сын зусім з глузду з'ехаў. Маці ціха плакала...

Канчатковы вынік вельмі спадабаўся Ігнату. Было ў гэтай карціне нешта захапляючае і агіднае адначасова. Свой уклад у яе стварэнне ўнёс нават кот Рыжык, які пахадзіў па ёй запэцканымі ў фарбу лапамі. Але гаспадар не разлаваўся на свайго любімца, бо ад гэтага «штрыха» малюнак толькі палепшыўся.



1. «Прасторавая канцэпцыя»
Лучо Фонтан – $1 500 000

2. «Без назвы»
Марк Ротка – $28 000 000

3. «Блакітны дурань»
Крыстафер Вул – $5 000 000

4. «Белы агонь І»
Барнет Ньюман – $3 800 000

5. «Без назвы»
Сай Твомблі – $2 300 000

6. «Сабака»
Жоан Міро – $2 200 000

7. «Без назвы» ці «Стофбілд»
Блінк Палерма – $1 700 000

8. «Каўбой»
Элсварт Келлі – $1 700 000

9. «Зялёна-белы»
Элсворт Келлі – $1 600 000

10. «Крывава-чырвонае люстэрка»
Герхардт Рыхтар – $1 000 000

1


2


3



4


5


6


7


8


9


10


– Рыжык, цаны табе няма! Цяпер мая карціна мае сваю «фішку», – усклікнуў Ігнат і абрадаваўся, што ў яго атрымалася ўжыць такое моднае слова.

Калі карціна добра высахла і не патрабавала ніякіх дапрацовак, Ігнат зазбіраўся ў горад. Трэба ж было прадаць свой шэдэўр багатаму калекцыянеру, які нейкім неверагодным чынам абавязкова павінен быў заўважыць яе і купіць за вялікія грошы.

Амаль цэлы дзень прастаяў Ігнат Прычэпка каля ўвахода на рынак, дэманструючы сваю карціну. Людзі падыходзілі, здзіўлена разглядвалі шэдэўр сучаснага мастацтва, але нават не пыталіся, колькі ён каштуе. Бабулькі, якія бачылі мастацкае тварэнне Ігната, хрысціліся, а дзеці пачыналі плакаць...

Дахаты Ігнат вярнуўся з такім дрэнным настроем, што нават бацька захваляваўся:

– Сын, не перажывай ты так. Калі хочаш, я пагавару з начальнікам і ён возьме цябе на завод. Будзем разам працаваць.

– Ды не хачу я на твой завод! – узлаваўся Ігнат. – Сам на ім працуй! А я – мастак!

– Чаго вы так раскрычаліся? – на парозе з'явіўся сусед Міхаіл і адразу аслупянеў, убачыўшы карціну Ігната.

– Ды мой убіў сабе ў галаву, што ён вялікі мастак. Вось намаляваў «шэдэўр», зараз прадаць яго хоча, – сказаў бацька і асуджана пакруціў галавой.

– Ведаеш, Ігнат, я яе куплю. У садзе павешу. Можа, злодзеі перастануць па яблыкі лазіць, ды і вароны, думаю, таксама не будуць шкодзіць, – не адрываючы свайго позірку ад карціны, прапалапатаў Міхаіл. – Я нават заплачу за яе дзвесце тысяч. Згодны?

– Нават не ведаю, я разлічваў на большае, – нерашуча адказаў Ігнат.

– Ды згодны ён, згодны, – умяшаўся ў размову бацька. – Давай грошы, забірай карціну. Спадзяюся, што яна табе дапаможа.

...Шэдэўр Ігната і сапраўды пазбавіў суседа ад нежаданых гасцей у садзе. Пасля гэтай гісторыі такія ж карціны заказалі сабе яшчэ некаторыя знаёмыя. А за нашым мастаком трывала замацавалася мянушка «пераможца варон».

**Карціны разглядала
Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Сатырычным пяром

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ**

# У пагоні за Афрыкай

*Ліст-зварот да моладзі*

Дарагія мае дзяўчаты і хлопцы!

Гляджу я на вас — і часам страшна робіцца: няўжо наша цывілізацыя паступова вяртаецца да дзікунскіх часоў? Бо ўсё часцей заўважаю маладых людзей са шматлікімі татуіроўкамі на целе. Я ўжо не кажу пра пірсінг. Куды толькі не ўстаўляюць «кольцы»: у нос, бровы, пупок... Хутка, баюся, пачнуць насіць гліняныя ці драўляныя талеркі ў вуснах, як у некаторых плямёнах Афрыкі.

А нядаўна ў тралейбусе заўважыў дзяўчыну, у якой вочы былі цалкам зашораныя грывай чырвоных валасоў. Ёй даводзілася матляць галавой, каб нешта ўбачыць перад сабой. Мода модай, але ж з-за такой прычоскі зрок псуецца — і ў хуткім часе можна стаць касой ці нават сляпой.

Адзенне — асобная тэма! Хлопцы носяць настолькі вузкія штаны, што ногі ператвараюцца ў дзве спіцы, абцягнутыя тканінай. Кожная другая дзяўчына, прысеўшы на кукішкі, дэманструе сваю голую спіну. Добра, калі на вуліцы лета, а калі мароз і дзьме пранізлівы вецер? Адкуль жа ў такіх дзяўчат будзе тое здароўе?

Можа, такое адзенне і прыгожае ў разуменні моладзі, але паслухайце мяне, чалавека, які ўжо дастаткова шмат пражыў на гэтым свеце. Не ганіцеся за модай! Беражыце сваё здароўе, якое каштуе значна даражэй за вузкія і бліскучыя штаны з заніжанай таліяй, кароценькую куртку ці туфлі на неверагодна высокіх абцасах. Вы прыгожыя і без татуіровак і розных «кольцаў» у носе. Хопіць даганяць Афрыку!..

*г. Мінск.*




Міні-комікс Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Казімір **КАМЕЙША**

## ПАРТРЭЦІКІ

### ГЭБЛІК

У руках чыіхсьці служка,
Ён прымерыцца спачатку,
Але гэтак здыме стружку,
Што й сукасты стане гладкім.



### ВАТА

Намокла,
А мякка так слалася вата.
Сама вінавата!..



### ДЗЯРКАЧ

Не мяце — дзярэ ў ахвоту.
Высах сам, даўно здзічэў.
Хай бы драў, яго ж работа, —
Прыдзіраецца яшчэ!



### ЖЫВОТ

Бы сабака той, бурчыць,
Нават не ўлагодзіш пасам,
Бо з баршчом перабаршчыў,
Нават перакквасіў з квасам.






Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




### Гультай

Раённы начальнік бэсціць дырэктара саўгаса за безгаспадарчасць:

— І чым ты займаешся? Толькі і ведаеш, што хадзіць на паляванне ды рыбалку!..

— Што вы! — б'е сябе ў грудзі дырэктар. — У мяне нават ружжа няма! І рыбу лавіць я не люблю.

— У гэтым выпадку ты сапраўдны гультай!

### Была сведкай

— Адкуль Галя ведае, што ты храпіш? — пытае жонка ў мужа.

— А мы ў адной канторы працуем.

### У госці з бутэлькай

— Аркаша, ты чаму не заходзіш у госці?

— А чаго я пайду, калі нават чаркі ў цябе не будзе...

— Чарка знойдзецца, толькі б бутэлька была!

### Своеасаблівы густ

Жонка:

— Дарагі, мне да твару гэта сукенка?

Муж:

— А колькі яна каштуе?

### Малайчына

— Мая суседка такая цудоўная гаспадыня: пасадзіць адно вядро бульбы, а выкапае тры.

— Гэта што! Вось мая суседка надойвае ад сваёй каровы па сем літраў малака, а прадае дзяржаве па дзесяць!

### Да цешчы падыход асаблівы

— Чаму ты так доўга варыш гэтыя грыбы? — здзіўляецца жонка. — Учора ж хутчэй падаў іх да стала!

— Дык сёння ж не будзе цешчы, гатую для сябе, — адказвае муж.

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Мініяцюры

### Мікалай ГЛЕБ

#### Фантазія і рэальнасць

У справаздачах у яго размах —
Фантазія на выдумкі багатая.
Ды той паперай не накрыеш дах
І ўсе прарэхі ёю не залатаеш.



*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

### Лёля БАГДАНОВІЧ

#### Зноў пра Моську

А іншы — глянь: хоць з вузел ростам
І звіліна ў мазгах адна,
Ды, як у байцы той пра Моську,
Звягліва брэша на слана.



#### Мары пра даляры

У скнары — думкі пра даляры:
Па колькі, дзе і як купіць.
У гультая адна ёсць мара:
Абы нічога не рабіць.



#### Валёнкі для жонкі

Каб не мець праблем ад жонкі,
Падарыў ёй Ясь валёнкі.
Ўсю зіму жанчыне годзіць —
Сам у тых валёнках ходзіць.



*г. Барысаў.*

## Віншуем!

## «ПАЛЫМЯНЫЯ» ЮБІЛЕІ

*Як кажуць, так сышліся планеты. А яшчэ — вырашылі пажартаваць. У сакавіку тры даўнія аўтары «Вожыка» святкуюць юбілеі, і ўсе яны працуюць у... адной рэдакцыі: старэйшым літаратурна-мастацкім выданні — часопісе «Полымя». Гэта Мікола Мятліцкі, Уладзімір Саламаха і Уладзімір Мазго.*



*Вядомы беларускі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікола МЯТЛІЦКІ (1954) узначальвае часопіс «Полымя». На яго рахунку дзясяткі паэтычных кніг. Найбольш вядомыя з іх — «Ружа вятроў», «Горкі вырай», «Палескі смутак», «Бабчын». Заўсёды сябраваў Мікалай Міхайлавіч і з гумарам. Чытачы «Вожыка» добра знаёмы з яго гумарыстычнымі творамі.*

*Знакаміты беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір САЛАМАХА (1949) прыйшоў у літаратуру, сцвердзіўшы сябе ў дакументальным і мультыплікацыйным кіно. У сваіх апавяданнях і аповесцях пісьменнік стварыў цэлы шэраг запамінальных вобразаў, яго творчасці ўласціва добрае веданне жыццёвага матэрыялу, шырокае выкарыстанне гумару ў абмалёўцы характараў. Уладзімір Пятровіч быў галоўным рэдактарам часопіса «Вожык». Цяпер загадвае аддзелам прозы часопіса «Полымя».*



*Вядомы беларускі паэт Уладзімір МАЗГО (1959) сябруе з «Вожыкам» яшчэ са школы: сямікласнікам быў адным з пераможцаў конкурсу «Шукаем усмешку», творы якіх надрукаваў наш часопіс. Аўтар шматлікіх кніг вершаў для дзяцей. Адна з іх, у якой пераважалі жартоўныя вершы, нават атрымала назву «Смехапад» (1999). А ў кнізе паэзіі «Анёл нябесны» (2007) цэлы раздзел пад назваю «Вясёлы карагод» складаецца з эпіграм, пародый, літаратурных шаржаў, мініяцюр, большасць з якіх друкаваліся ў «Вожыку». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».*



*Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса «Вожык» віншуюць шаноўных юбіляраў, жадаюць ім моцнага здароўя, творчага плёну, вясёлых і радасных дзён у жыцці!*

*Шаржы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА* *(стар. 8, 9).*

*Анатоль Андрэевіч ДЗЯЛЕНДЗІК (1934) – вядомы беларускі пісьменнік, драматург, сцэнарыст – святкуе сваё 80-годдзе.*



*З часопісам А. Дзялендзік пасябраваў даўно: у далёкім 1963 годзе ў «Бібліятэцы «Вожыка» выйшла яго першая кніга – «Пагібель «Тытаніка». Затым былі камедыі «Абы ціха», «Амазонкі», «Аперацыя «Мнагажэнец», «Аўкцыён», «Гіпапатам», «Султан Брунея» і іншыя, шэраг аднаактовых п’ес.*

*Сяброўства было невыпадковым. «У школе з цяжкасцю давалася арыфметыка, а почырк быў – найгоршы ў класе. Гэта канчаткова пераканала мяне ў наяўнасці літаратурных здольнасцей, – з гумарам згадваў пісьменнік у прадмове да сваёй першай кнігі. – Але вырашыў не спяшацца, бо аднойчы за чыёсьці мастацтва на сцяне ганарар з акорднай платай дастаўся мне. Заставалася чакаць...» І дачакаўся: пазней яго гумарэскі, апавяданні, фельетоны пачалі друкавацца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, перадаваліся па радыё і тэлебачанні, чыталіся з эстрады. Словам, як скончыў А. Дзялендзік у 1957 годзе лячэбны факультэт Мінскага медыцынскага інстытута і трапіў на працу ў рэспубліканскую псіханеўралагічную бальніцу, так і ўзяўся за літаратурную лячэбна-сатырычную практыку. «Вылечыў» сваімі гумарыстычнымі творамі не аднаго хворага на меланхолію.*

*«Вожык» шчыра віншуе Анатоля Андрэевіча са слаўнай датай і жадае жыццёвага і творчага даўгалецця, бадзёрасці і аптымізму.*

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК**




*Гульні дарослых, або Камедыя-карнавал у дзвюх дзеях з музыкай, танцамі, сардэчным прыступам*

### Дзея першая

### Карціна першая

Вечар у лесе. Пасля легкадумнай уверцюры, выкананай аркестрам, з’яўляецца шчуплы, невысокі мужчына – Леў Іванавіч Бабачкін з Наталляй Іванскай, маладой прывабнай жанчынай, на руках. Асцярожна кладзе яе на траву, ляпае па шчацэ, робіць штучнае дыханне – не дапамагае. Тады ён звяртаецца да спосабу, якім карыстаюцца выратавальнікі – прыціскаецца вуснамі да яе вуснаў... Збоку гэта падобна на працяглы пацалунак – можа быць, у казках менавіта так ажыўлялі памерлых?..

Іванская *(расплюшчвае вочы)*. Дзе я?

Бабачкін. Не хвалюйцеся. На гэтым свеце.

Іванская сядае. Бабачкін збірае галінкі, з дапамогай запальнічкі спрабуе развесці вогнішча.

Іванская. Галава кружыцца. Што са мной?

Бабачкін. А вы ляжыце. Хутка пройдзе.

Іванская *(прылегла)*. Я выпіла, напэўна, цыстэрну вады.

Бабачкін. Не хвалюйцеся – узровень ракі не панізіўся. Я праверыў.

Іванская. Як гэта здарылася?

Бабачкін. Стары папярэджваў – лодка няўстойлівая. А вы сталі на ўвесь рост, паднялі рукі і заспявалі чайкам: «Ляту я...»...

Іванская. Ах так... *(Нечакана.)* Сумка... Вы яе не выратавалі?

Бабачкін *(адмоўна ківае галавой)*. Сутыкнуўся з альтэрнатывай – вы ці сумка. Грошы, дакументы?

Іванская. У ёй была памада.

Бабачкін. Памада?

Іванская. Фірмы «Каці»! За гэту памаду... Там глыбока? Пацягнуў мяне чорт садзіцца ў гэту пасудзіну!

Бабачкін. А іншага транспарту тут няма. Толькі на лодках. Усё жыццё. І жывуць па сто гадоў! Разгадаць бы – чаму?

Іванская *(бярэцца за галаву, спалохана)*. Як вы мяне цягнулі?

Бабачкін. Адгадалі – за валасы.

Іванская. Панчоха падралася... Не, у такім выглядзе нікуды не пайду!

Бабачкін. Ноччу ісці па балоце? Пасядзім ля вогнішча, да світанку.

Іванская. У кожным лесе павінен быць дом лесніка.

Бабачкін *(безнадзейны ўзмах рукой)*. Пагаварыце з мядзведзямі. А можа, на ноч бярлогу здадуць.

Іванская. Чулі? Там штосьці хруснула! *(Падсоўваецца да Бабачкіна.)*

Бабачкін. Не палохайцеся. Гэта рысь або дзік. Думаю, яны ўжо павячэралі. Распранайцеся і бліжэй да агню.

Іванская. У вашай прысутнасці?

Бабачкін. Я пайду. *(Устае.)*

Іванская. Гэй, не, не! Адвярніцеся. Мерсі. *(Здымае сукенку, развешвае ля вогнішча.)*

*Працяг на стар. 10.*

*Працяг. Пачатак на стар. 9.*

Бабачкін. Давайце адпачываць. Мяккіх галінак прынясу.

Іванская *(перастае танцаваць)*. Гэй! На вуснах у вас памада. Адкуль?

Бабачкін. М... Калі плылі... Выпадкова...

Іванская *(пільна яго разглядае з усмешкай)*. Ну-ну! Вы дзе ляжаце?

Бабачкін. Па гэты бок вогнішча. *(Нечакана.)* Фігура ў вас прыгожая...

Іванская *(дурасліва грозіць пальцам)*. Дацэнт Бабачкін!..

Бабачкін *(хапатліва)*. Так, так, зразумела. На досвітку пойдзем.

Кожны ўладкоўваецца
як мага зручней.

Іванская. Кахаеце жонку?

Бабачкін. Мы выхавалі сына. І якога сына! А хіба без кахання...

Іванская. Але прыгоды ўсё ж былі, га?

Бабачкін. Ведаеце, у гады маёй маладосці людзі паводзілі сябе сціпла. Жыццё цяжэйшым было, ці што.

Іванская. Ёсць такія мужчыны, спакойныя, упэўненыя. З імі лёгка, хочацца расказваць аб сваім жыцці, раіцца... Даўно мяне займае — за што вас любяць супрацоўнікі? Не толькі ж за талент!

Бабачкін. Заўтра дзянёк... Невядома, ці паспеем дабрацца. Добрай ночы.

Іванская. Арэвуар. *(Доўгая паўза. Ускоквае.)* Чуеце?

Бабачкін. Што?

Іванская. Зайчык! Так крычыць зайчык. Дапамажыце! Вы мужчына!

Бабачкін. Позна. Я дапамагаю да дзесяці вечара. Спім, Наталля Сяргееўна.

Іванская *(пасля паўзы)*. Леў Іванавіч, былі выпадкі, што мядзведзі кралі жанчын? А потым зацягвалі ў бярлогу...

Бабачкін. Былі.

Іванская. І... што потым?

Бабачкін. Жанчыны стваралі ў бярлозе райскае жыццё, і мядзведзі перавяліся.

Доўгая паўза.

Іванская. Вы бачыце каляровыя сны?

Бабачкін. Не, Наталля Сяргееўна! Толькі глуханямыя.

Іванская *(кідае ў яго галінкай)*. Не злуйцеся! Гэта злачынства — спаць у такую ноч. Раскажыце пра сваё першае каханне.

Бабачкін. О божа! Усё жыццё пакутую з-за жанчын...

Іванская. Гэта так цікава!

Бабачкін. Спіце. У мяне не хапае тэмпераменту на вашы выхадкі.

Іванская. Справа не ў тэмпераменце. Гульню люблю! Жанчына ў дзень хвілін дваццаць павінна заставацца дзіцем.

Бабачкін. Здзіўляюся — як вам удаецца пісаць праблемныя артыкулы?

Іванская. А вяселле ў мяне было на дрэве.

Бабачкін. Як — на дрэве?

Іванская. На галінках вярбы, велізарнай, раскідзістай! Ён быў майстрам спорту. Па акрабатыцы.

Бабачкін. А...

Іванская. Госці на галінках сядзелі. Адзін крыкнуў «горка» і паляцеў... у ваду.

Бабачкін. Наталля Сяргееўна, да заўтра.

Іванская *(пасля паўзы)*. Сямейнага шчасця не было. Разышліся. Быў яшчэ, эпізод... Не тое. І кінулася ў навуку. Леў Іванавіч, бывае каханне — вялікае-вялікае?

Бабачкін *(не адразу)*. Калісьці ў школе дэсантнікаў...

Іванская *(смяецца)*. Вы — дэсантнік?! Навіна!

Бабачкін. Калі я быў у школе дэсантнікаў, поварам... Узрост утаіў. У нас працавала дзяўчына, радыстка... *(Паўза.)* Потым я папрасіўся ў тыл. Вяртаюся праз два гады з задання — нарадзілася дачка. Радыстка не вярнулася... Я хацеў узяць дзяўчынку — бабуля нізашто... Пачаў дапамагаць... Дзяўчынка даўно вырасла...

Іванская. Вось гэта гісторыя! А прыгоды — прыгоды былі?

Бабачкін *(глуха)*. Давайце спаць.

Іванская. Не, раскажыце!

Бабачкін *(сядае)*. Наталля Сяргееўна! Бачыце тую крапіву?

Іванская. Вы грубы, анфан тэрыбль. Нават не ведаю — чаму вы мне падабаецеся! Я люблю пяшчотнасць, увагу... Вось французы... *(Змаўкае. Раптам дзіка крычыць.)* Дапамажыце!

Бабачкін *(падхопліваецца)*. Што здарылася?

Іванская. Напэўна, кракадзіл... цапнуў.

Бабачкін. Дзе?

Іванская. Вось тут... зубамі.

Бабачкін *(уздыхае)*. Звычайная мурашка. Кампанотус геркуланус. *(Устае.)* Хадземце!

Іванская. Куды?

Бабачкін. Шукаць дарогу...

*«П'есы», Мн., 1985 г.*








На фота: Аляксандр ЗАЗУЛЯ.



Вавёрачка я.

# ТЭХНІКА ГУМАРУ

*Знаёмцеся, калі ласка: Аляксандр ЗАЗУЛЯ. Спачатку крыху біяграфічных звестак. Нарадзіўся ў Наваполацку. Па спецыяльнасці – радыётэхнік. Працуе інжынерам на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе.*

*А цяпер – пра справы творчыя. Захапляецца фатаграфіяй. Вывучаў тонкасці стварэння фотаздымка ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (цэнтр «Творчыя майстэрні»). Член творчага саюза «Фотамастацтва». Удзельнік і дыпламант разнастайных творчых конкурсаў. (Адзін з фотаздымкаў пад назвай «Сляды» быў нават надрукаваны ў папулярным амерыканскім часопісе «National Geographic» у рубрыцы «Фота дня».)*

*Аляксандр Львовіч, між тым, вельмі любіць усміхацца. Самастойна або разам з калегамі ён напярэдадні 1 красавіка арганізуе выставы фотаздымкаў пад назвай «Улыбайтесь, господа, улыбайтесь!». А назбіраўшы калекцыю «несур'ёзных» фота, даслаў іх у «Вожык», які чытае і памятае з дзяцінства. Лічыць, што гумар на фота павінен быць такім, каб гледачу яшчэ больш хацелася жыць! Не выключае і сатыры, але дзейснай, а не безнадзейнай, як на пераважнай большасці сучасных дэматыватараў*.*

*Акрамя таго, А. Зазуля гуляе ў «Што? Дзе? Калі?» і іншыя інтэлектуальныя гульні, нават удзельнічаў у чэмпіянаце свету па «Брэйн-рынгу». А таксама са школы захапляецца мадэліраваннем і тэхнічнай творчасцю. Ён пастаянны ўдзельнік конкурсу «Восеньскі акорд», які штогод праводзіцца на Мазырскім НПЗ. Нядаўна Аляксандр вырабіў унікальную крыніцу энергіі з... бульбы. (На сталічным форуме «Тэхна-Арт» гэта мадэль была па-за канкурэнцыяй.) Маленькая лямпачка беспярабойна гарэла на працягу двух тыдняў! Радуе, што жонка Аляксандра з разуменнем аднеслася да такога «фокуса» і не папікала вынаходніка тым, што ён спляжыў на свае эксперыменты мех бульбы.*

*Словам, вітайце сённяшняга вясёлага і незвычайнага дэбютанта ды разглядайце яго работы.*



Белая пачынае і выйграе.




Падушка небяспекі.



Лідар.




50% ню.

* Дэматыватар – гэта новы накірунак у мастацтве плаката, які не заклікае да якога-небудзь дзеяння, а прымушае чалавека задумацца. Дэматыватары традыцыйна змяшчаюцца ў чорную рамку і маюць надпіс. Як правіла, яны напоўнены сатырай, злым сарказмам, адчаем.




## Сяргей ДАВІДОВІЧ

### ЭКСПЕРЫМЕНТ

Я зрабіў экперымент,
Як у казцы, што чытаў –
Каб разбіць сумненні ўшчэнт,
У люстэрка запытаў:

– О, люстэрка на сцяне!
Ты з маленства тут – не госць,
Раскажы ўсё пра мяне,
Усю праўду, ўсё, як ёсць!

І люстэрка – у адказ:
– Бачу я не першы раз
Прыгажосць тваю, прывабнасць,
І падцягнутасць, і зграбнасць.

Але знешнасць – хуткі май,
Ты духоўны – цераз край.
Працаздольны, пладавіты,
Як ніхто, таленавіты.

Ты ва ўсім, заўсёды – новы,
Словам – геній прыжыццёвы,
Помнік будзе залаты
Па табе – такі вось ты!

Я задзёр да столі нос,
Але нос абвяў уніз –
Каляндар ад пылу страс,
Ліст перавярнуў – і скіс.

Пад гарачы сэрца стук
Словы сплюнуў з языка:
– Гэта ж сёння дзень манюк –
Першага красавіка!




Высокакваліфікаваны экстрасэнс пазбавіць ад пахмелля. Пры сабе мець: мільён рублёў і бутэльку гарэлкі.

Увага! Учора з нашага заапарка збегла чарапаха. Хто знойдзе, калі ласка, павярніце яе на 180 градусаў.

Адміністрацыя.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## Юрась НЕРАТОК

### ГОДЗЕ!

Даволі фраз, даволі поз,
Даволі шчок надзьмутых.
Пакінь, іржа і плесня, мозг,
Звалiся з сэрца, смутак!

Выходзь хутчэй, атрута, з жыл,
Схавайся ў склеп, трывога,
Страсі з сябе, няўклюднасць, пыл,
Настрой, вылазь з бярлога!

У багне, безнадзейнасць, згінь,
Злятай, бязволле, з мышцаў!
Упэўненасць, у пекла зрынь
Сумнеў і знішчы прыкрасць!

Абезгалоў тугу і млосць
Сякерай на калодзе...
І радуйся таму, што ёсць.
Пасумаваў – і годзе!



Малюнак
Аляксандра ПЯТРОВА.

Будзім кожную раніцу. Магчымыя варыянты: званок у дзверы, званок па тэлефоне, цагліна ў акно, пацалунак у вуха, цагліна ў вуха, пацалунак у акно.

Аддзел кадраў.

## НЕ КОЖНЫ...

Не кожны бусел яшчэ і дзяцей прыносіць.

Не кожны, хто ў небе лятае, самалётам завецца.

Не кожны, хто страляе, яшчэ і снайпер.

Не кожны, хто шмат гаворыць, мае шмат слухачоў.

Не кожны, хто піша, чытаць умее.



**Заўважыла Вольга ЛАТЫШАВА,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

### Афарызм

Мяне не трывожыць, што я ўжо дзядуля, дрэнна толькі тое, што жанаты я на бабулі.

Маркс Граучо
(амерыканскі акцёр, комік)




АКУЛІСТ – паляўнічы на акул.

ВАДАБОЙ – вясляр.

ГАРАЧЫЦЦА – парыцца ў лазні.

ДАЗОР – касмічны апарат.

ДРАПЕЖНІК – уцякач.

КАРАПУЗ – той, хто лезе на дрэва.



КІШЭНЬ – мурашнік.

МАЛАТОК – электрык невялікага росту.

СТРАХАЎШЧЫК – рабочы, які крые стрэхі.

ПІВОНЯ – аматар піва.

ТРЭБНІК – вымагальнік.



**Даслаў Уладзімір ШПАДАРУК,**
*г. Рагачоў.*

## Анекдоты

Дурнота – гэта асаблівая форма матэрыі, галоўнай асаблівасцю якой з'яўляецца ўласцівасць пераходзіць з адной галавы ў другую.

☺ ☺ ☺



1 красавіка звоніць тэлефон. Мужчына здымае трубку і чуе:

– Дурань!

Затым – кароткія гудкі.

Мужчына не разгубіўся, набраў нумар тэлефона, які першым прыйшоў у галаву, і сказаў:

– Сам дурань!

☺ ☺ ☺

Дзве сяброўкі размаўляюць па тэлефоне:

– Алё, Света, сёння ж 1 красавіка! Цябе ніхто яшчэ не разыграў?

– Не, ты ж мяне ведаеш, я на такое не паддамся. Давай лепш пазней пагаворым, а то я зараз у спаборніцтвах удзельнічаю.

– У якіх?

– Званіў муж, сказаў, што мяне запрасілі на спаборніцтвы сярод лепшых жонак. Ён упэўнены, што я перамагу, і таму ўжо чакае мяне на фінішы са сваімі сябрамі, фотаапаратам і кветкамі. А мне неабходна дома нагрэць прас і бегчы з ім да піўбара. У каго прас на фінішы будзе самы гарачы, той і перамог. Усё, я пабегла.

☺ ☺ ☺

1 красавіка. Муж вяртаецца дадому ў вельмі добрым настроі. Жонка пытае:

– Што здарылася?

– Уяўляеш, зараз так смешна таксіста падмануў! Я яму грошы даў, а сам нікуды не паехаў!






# ПРАВУЧЫЎ ПАНА

У адным мястэчку жыў дужа злосны пан. Дня не праходзіла, каб ён кагосьці не пакрыўдзіў. А мог і аблаяць так, што чалавеку жыць не хацелася. Так усіх застрашыў, што ніхто не мог яму і слова супраць сказаць.

Аднаго разу сабраў пан сваіх работнікаў і пачаў на іх лаяцца. Ажно ў горле ўсё перасохла. А тут яму якраз на вочы трапіўся хлопчык Міхаська. Паклікаў яго пан і загадаў прынесці квасу. Хлопчык хуценька збегаў дахаты і ў гліняным чарапку прынёс папіць.

Пан выпіў, адразу ж падабрэў і пытаецца:

– А ці многа ў вас яшчэ такога квасу?

– Многа, – адказвае Міхаська. – Калі ўчора ў бочку ўваліўся пацук і маці палезла яго даставаць, дык ёй якраз да пупа квас даставаў.

Пан, пачуўшы гэта, так раззлаваўся, што з усёй моцы шпульнуў гліняны чарапок на зямлю і той разбіўся. Міхаська забедаваў:

– Ай, паночак, што ж вы нарабілі! З чаго мой каточак цяпер есці будзе?..



**Даслаў Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.



**– Папрасі залатую рыбку, каб нас унукі часцей наведвалі.**

Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА.

**Павел САКОВІЧ**

## ГЭТЫ МАЛА ЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

ВЫСАКАРОДНЫ – радня высокага начальства.

МАТАЧНАЕ ПАГАЛОЎЕ – група брыдкасловаў.

«ХАНДРАКСІТ» – лекі ад хандры.

АХІЛЕСАВА ПЯТА – тое, што ў жанчын зусім не на тым месцы.

КАРЦЁЖНІК – картограф.

ГУЛЬНЯСЛОЎ – пісьменніцкі сход.

БАНКАМАТ – дыялог з рукапрыкладствам паміж кліентам і сапсаваным апаратам.

СТРЫНГІ – на думку рыбалова, гэта ўсяго дзве стронгі.

ВІНАРОБЧЫ – пракурор-абвінаваўца.



Фёдар ЛАПАНІК




Стась толькі скончыў галіцца, як нехта пазваніў у дзверы. Мужчына адчыніў іх і ўбачыў на парозе маладую, прыгожую, модна апранутую бландзінку.

– Кватэра дзевяць? – спытала дзяўчына.

– Так, дзевяць, – адказаў Стась, насцярожана ўзіраючыся ў незнаёмы твар візіцёркі.

– Тады добры дзень, – павіталася яна і прашмыгнула ў кватэру.

Дзяўчына агледзелася навокал, хутка зазірнула ў пакоі і вынесла вердыкт:

– Двухпакаёўка, але жыць можна. Мэбля, канешне, не фантан, бо ўся старая і абшарпаная. Вунь як выцерлася абшыўка на канапе, хутка нельга будзе пазнаць, якога яна колеру. А гэта што за музейны экспанат? – паказала яна пальчыкам з доўгім пазногцем на сцяну спальні.

– Звычайная кніжная паліца, – разгублена прамовіў Стась.

– Гэту старызну выкінуць трэба! І шпалеры ў прыхожай пераклеіць. Ды і кухня надта стракатая. Усё зробім у светлых танах...

Пакуль гаспадар кватэры стаяў, анямеўшы ад нахабнасці сваёй нечаканай госці, тая прадаўжала трашчаць:

– І ложак двухспальны патрэбны, бо твой маленькі... А ты рослы і сімпатычны, зусім такі, якім я цябе ўяўляла. Характар у мяне не самы просты, але нічога, як кажуць: сцерпіцца – злюбіцца. Дарэчы, калі будзем ладзіць вяселле? Я гатова хоць сёння, хоць у гэту хвіліну стаць тваёю.

– Якое яшчэ вяселле? Я ні з кім не збіраюся жаніцца, – нарэшце да Стася вярнулася мова.

Пасля гэтых слоў бландзінка ўспыхнула запалкай:

– Дык навошта тады было даваць аб'яву ў газеце, дурыць мне галаву? Там жа ясна было напісана: маўляў, мужчына сярэдніх гадоў, без дрэнных звычак, шукае верную спадарожніцу жыцця. І адрас: вуліца Зарэчная, дом 12, корпус 3, кватэра 9.

– Але гэта не трэці корпус, а чацвёрты. Вы не туды трапілі, – нарэшце Стась усё зразумеў.

У адно імгненне незнаёмка спахмурнела, панурыла галаву і накіравалася да дзвярэй:

– Прабачце, калі ласка. Можа, падкажаце, як мне знайсці трэці корпус? А раптам гэтага мужчыну яшчэ ніхто не перахапіў?

– Як выйдзеце на вуліцу, адразу налева, а там ужо ўбачыце, – сказаў Стась, зачыняючы дзверы і пасміхаючыся.

*г. Ляхавічы.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Паўла САКОВІЧА.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

## Паразумеліся з натуры

Іванаў бацька быў выдатным разьбяром па дрэве. На памяць ад яго сыну засталася бярозавая лыжка.

Цяпер Іван як сядзе за стол есці, так і ўспомніць бацьку. А жонка Марыя сварыцца:

– Чаго гучна сёрбаеш? Вазьмі звычайную лыжку!

Муж маўчыць, а потым не вытрымлівае:

– А ты іншую сукенку апрані! Гэтую твая маці пашыла, калі ты, відаць, яшчэ замуж за мяне выходзіла...

Маўчаць.

Марыя мякчэе:

– У вёсцы і цяпер хваляць твайго бацьку. Лепшы бондар на ўвесь раён быў. Такія дзежкі ды бочкі цяпер ніхто не зробіць.

– А маці твая лепшай швачкай была, – адзываецца Іван. – Кабеты ў чаргу выстройваліся, каб пашыла ім які ўбор...

– Ну, еш, чаго сядзіш з лыжкай у руцэ? – заўважае Марыя, і муж зноў сёрбае страву бярозавай лыжкай.

*г. Мар'іна Горка.*




## Карацелькі

### У сваты

Сватаў дзевак, а яны
Выстаўляюць кавуны.
Шлюб у модзе аднаполы:
Пайду заўтра да Міколы!




### Альтэрнатыва

Гаварыў сябрам Сярожа:
Без жанчын пражыць не можа!
Праўда, ёсць альтэрнатыва –
Замяніць іх можа... піва!

### Адзін недахоп

У Алесі – хлопцаў дзесяць.
Падлічыла так Алеся.
Мо, было б ужо і дваццаць,
Ды – не ўмее цалавацца!

**Валянцін ШВЕДАЎ,**
*г. Мінск.*




Малюнкі Пятра КОЗІЧА.




**Мікола МАЛЯЎКА**




Атрымаў Раман палучку,
Не патраціўся на ром,
А купіў у краме ручку
З пазалочаным пяром.

Для натхнення — новы стымул,
Шчыльна спісаны лісткі.
Верыць: стануць залатымі
Паэтычныя радкі.

Даўся выдаўцам у знакі,
І не ведаюць яны,
Як пазбыцца ад пісакі,
У якія біць званы.

А пісака не лайдачыць:
Так захопіцца парой,
Што становіцца гарачым
Ад напружання пяро.

Рому лыкнуўшы кілішак,
Весялей глядзіць на свет,
Марыць пра палічку кніжак,
Пра пісьменніцкі білет.

Чытачоў не мае, праўда,
Ганарараў не грабе.
Толькі ў сне шчаслівы аўтар
Бачыць класікам сябе.

Вось дык пёрца залатое!
Не праславіўся Раман,
Ды ў жыцці займеў затое
Тытул графскі:
ГРАФА-МАН.

**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**

## МУЖ І МУЗА

*Чаргаванне зычных*

*— У пісьменніка павінна быць Муза...*
*— А ў пісьменніцы?*
*— Муж!*
*Міхась СЛІВА*

«Хірург» напіша ён праз «і».
Калі праз «е» — мяркуйце самі:
Ці то філолаг ён благі,
Ці эскулап не без заганы.

Але і «з», і «ж» засвоіў:
Паэту Музу прапісаў,
А для пісьменніцы героем
Рамана новага ён стаў.

Мужык сапраўдны Міша Сліва —
Усіх ён творцаў ашчаСЛІВіў!






Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




— Вашаму раману, малады чалавек, — звяртаецца рэдактар да пісьменніка-пачаткоўца, — не хапае канцоўкі.
— Гэта нічога! — адказвае той. — Памяркуйце самі: хто ж сёння дачытвае кнігі да канца?

* * *

— Скажыце, — пытаецца малады пісьменнік у рэдактара, — ці ёсць увогуле надзея, што маё апавяданне будзе надрукавана ў вашым часопісе?
— Ну, вядома, ёсць! Усе людзі смяротныя, і я не вечны...

* * *

Размова рэдактара і аўтара-пачаткоўца:

— Ваша аповесць, скажу шчыра, сведчыць пра вялікую стараннасць. Аднак належыць яшчэ вельмі шмат зрабіць: трэба чытаць як мага больш — дома, у трамваі, на працы...
— Вы лічыце, што гэта дапаможа?
— Безумоўна! Чым болей вы будзеце чытаць, асабліва класікаў, тым менш часу застанецца для ўласнай творчасці!




**Міхаіл МАСКАЛЬЧУК**




У канцы сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя я працаваў вадзіцелем у невялікім раённым гарадку на Гомельшчыне. Аднойчы восенню нашу брыгаду шафёраў адправілі ў камандзіроўку.

Адпрацаваўшы змену, хлопцы пайшлі ўладкоўвацца ў гасцініцу, дзе іх сустрэла жвавая вахцёрка:

– Добры вечар, называйце свае прозвішчы і давайце пашпарты.

– Калі ласка, запісвайце: Асёл Сяргей, Казёл Мікалай, Баран Іван... – сказаў адзін з шафёраў.

– Вы што, з мяне здзекуецеся? Зараз міліцыю выклічу! – разззлавалася вахцёрка.

– Прабачце, мы не здзекуемся. Вось нашы пашпарты.

Жанчына ўзяла дакументы, пачала чытаць услых:

– Асёл Сяргей, Казёл Мікалай... І сапраўды такія прозвішчы... А дзе ваш пашпарт? – звярнулася яна да Івана Барана.

– Прабачце, але я яго дома забыўся... – адказаў Іван.

– Але без дакумента я вас не прапушчу! Не дазволена!

У гасцініцу якраз зайшоў наш начальнік. Зразумеўшы, у чым справа, ён папрасіў вахцёрку:

– Прапусціце яго, калі ласка, гэта сапраўды мой шафёр Баран, я пацвярджаю!

– Калі вы за гэта адказваеце, то няхай праходзіць, – паспакайнела жанчына. – А як ваша прозвішча?

– Воўк, – адказаў наш начальнік.

Вахцёрка ад здзіўлення спачатку знямела, а потым незадаволена прамармытала:

– Дзівосы ды і толькі! У вас не брыгада, а нейкі звярынец... Добра, праходзьце ўсе, а то зараз яшчэ які Леў прыйдзе!..

*Гродзенская вобласць,*
*г. п. Вялікая Бераставіца.*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**




*Жыццёвае*

Ну і шанцуе ж мне на прыгоды, скажу я вам!

Адпачывала неяк у санаторыі. І прычапіўся да мяне дзядок: на кожны танец запрашае, так і намагаецца шчыльней прыхінуцца, нават пацалаваць спрабуе ды ў нумар кліча... Ледзьве адчапілася: паабяцала, што заўтра ўбачымся. А ён мне ў адказ: «Баюся, што не дажыву да раніцы. Так вы мне спадабаліся!..»

*г. Барысаў.*






Гора, радасць, калі маю,
Дзялю з жонкай папалам:
Сабе радасць забіраю,
Гора – жоначцы аддам.

* * *

Мне пажадалі, каб жыццё было
Нібыта ў казцы: там жа ліха мала.
Ну што ж: па вуснах мне віно цякло,
Ды ў рот, зараза, так і не трапляла!




* * *

Калі камусьці пазычаю –
Душа ад шчодрасці пяе.
Ды радуюся больш звычайна,
Калі той доўг вяртаюць мне.

**Міхась МАЗУРЭНКА,**
*г. Мінск.*

**Вера БУЛАНДА**




Вы калі-небудзь бачылі лазніка? Не? То ў вас, напэўна, і лазні не было. І мыліся вы ў начоўках ці ў цэбры, або ў балоце з жабамі.

А ў кожную лазню, між тым, пасля суботы прыходзіць лазнік і наводзіць там парадкі: то венікі параскідае, то тазікі месцамі памяняе, то мачалкі пад лаўку закіне. Прыйдзеш у наступны раз мыцца і пакуль усё пазнаходзіш — упацееш так, што і парылкі не захочаш...

Калі ў нашым аграгарадку новая лазня адчынілася, то і ў ёй лазнік завёўся. Ну, шчыра кажучы, не зусім лазнік, а Мікола, наш качагар.

Дык вось, праз некаторы час пайшлі па вёсцы чуткі, што Мікола-качагар распавядае мясцовым мужчынам пра жаночыя фігуры. Кабеты адразу пачалі шукаць, адкуль той за імі шпіёніць. І неўзабаве знайшлі дзірку непадалёку ад кранаў.

— Ці яму сваёй Кацярыны мала! — абуралася Сцепаніда.

— Давайце пагаворым з ім ды папярэдзім, што калі і далей будзе падглядаць, абварым яго паскудныя зенкі! — прапанавала Галіна.

І вось з турбанамі-ручнікамі на галовах, з чырвонымі тварамі, жанчыны рушылі да качагаркі і растлумачылі лазніку, што яны зробяць з ім, калі той прадоўжыць свае агледзіны.

Яго гэта не спалохала: наадварот, павялічыў адтуліну да памеру гусінага яйка. Тады жанчыны ўбілі цвік і павесілі над дзіркай тазік. Ды што яму скінуць тазік? Затынкавалі адтуліну надзейна і грунтоўна. І тут не ўгадалі. Толькі збяруцца мыцца, як раптам высвятляецца, што з крана ідзе толькі халодная або толькі гарачая вада. Даводзіцца клікаць Міколу. А ён, не зважаючы на разгубленых ад сораму дзяўчат і злосных кабет, шыбуе ў мыйны пакой ды пачынае шукаць няспраўнасці ў трубах: стукае па іх, круціць туды-сюды краны і, нагледзеўшыся ўволю на жаночыя целы, выходзіць, загадкава ўсміхаючыся...

Жонка дырэктара саўгаса ўрэшце не вытрымала і, пагражаючы разводам, запатрабавала ад свайго мужа, каб той строга пагаварыў з лазнікам.

У панядзелак качагар быў у кабінеце дырэктара, нават не здагадваючыся, чаму яго патурбавалі ў законны выхадны дзень.

— Ты прасвідраваў дзірку ў лазні? — адразу пайшоў у наступ Павел Кандратавіч.

Мікола згодна кіўнуў галавой.

— А затым вы, Мікалай Прохаравіч, — афіцыйна працягнуў той, — пачалі хадзіць па лазні сярод раздзетых жанчын, так?

— Так, — зноў не стаў адмаўляцца качагар.

Дырэктар разгубіўся:

— І колькі гадоў ты робіш свае агледзіны?

— Столькі, колькі існуе лазня, — спакойна адказаў Мікола.

— А навошта ты гэта робіш? — пранікнёна зірнуў на яго Павел Кандратавіч.

Лазнік падняў галаву, уважліва паглядзеў на дырэктара і цяжка ўздыхнуў:

— Л-люблю пр-рыроду і... нічога з сабой не магу зрабіць. Р-разуме-е-це?...

Мікола і па сённяшні дзень нічога не можа зрабіць. Не верыце? Прыязджайце ў наш аграгарадок. Я вас і ў лазню завяду, і дзірку пакажу, і з Міколам пазнаёмлю. Але хопіць мне языком мянташыць. Пайду венікі вязаць, каб лазніка было чым ганяць!..

*г. Мінск.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.







## «Бульбяныя» прыпеўкі



Мілы не прыйшоў увечар:
Ці яму не люба?
Для каго стаіць у печы
Вараная бульба?

* * *

Мне не трэба многа бульбы –
Хопіць чыгунок.
Мне дзяўчат не трэба многа –
Хопіць і пяток.



* * *

Ты не стой пад акном,
Не тапчы бульбоўнік.
Лепей, мілы, запрасі
У густы дзядоўнік.

* * *

Хлопцам толькі б пагуляць
Ды павесяліцца.
А як бульбачку капаць –
Дык не дапрасіцца.



* * *

У ажыну не пайду –
Моцна абкалюся.
Ты пакліч у лебяду –
Сама павалюся.




**Праспявала Раіса ДЗЕЙКУН,**
*г. Гомель.*

## Любоўныя прыпеўкі

Калі б я, калі б я
Салаўіхаю была,
У Івана пад акенцам
Я б гняздзечачка звіла.

* * *

На бярозцы дзве зязюлькі,
А на ліпцы салавей,
Як убачу майго Колю,
На душы год весялей.

**Запісаў Кастусь КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

Клікаў Вася мяне ў клець
Удваіх там пасядзець.
Сёння Васю клічу я,
Каб пагушкаў мне дзіця.



* * *

У юнацтве хлопец Янка
Зазірнуць любіў у шклянку,
А у сорак наш саколік
Стаў са стажам алкаголік!

**Агучыў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

Уладзімір МАЗГО

# Тузін Васевых прыгод, паяднаў якія спорт



## 1. Лыжны крос

На дварэ трашчыць мароз.
Каля школы — лыжны крос.

Захварэў сябрук — замена
Патрабуецца спартсмену.

Васілінка просіць: «Вася,
Калі ласка, пастарайся!»

Мігам Вася стаў на лыжы,
З кожнай хвіляй фініш бліжай.

Трэск пачуўся пад нагой —
Не спужаўся наш герой.

Васіля нічым не спыніш:
Вось ён, пераможны фініш!

## 2. Вася — хакеіст

Цэлы год наш сябар Вася
На катку трэніраваўся.

У лядовым ён палацы
Шліфаваў майстэрства ў працы.

І цяпер старанны Вася —
Хакеіст найлепшы ў класе.

Захапіліся хакеем —
За таварыша хварэем.

У вароты за хвіліну
Аж дзве шайбы ён закінуў.

Будзе хутка Вася, мусіць,
Чэмпіёнам Беларусі.

## 3. Рэкс дапамог

Гуляюць дзеці ў валейбол.
І шум, і крык стаіць наўкол.

А мяч знянацку цераз плот
Нырнуў у дзедаў агарод.

Перапынілася гульня:
Баяцца хлопчыкі рамня.

Гавораць Васю: «Растлумач,
Як нам вярнуць з палону мяч».

А Вася крыкнуў: «Выручай!..» —
І Рэкс на агарод памчаў.

Прынёс сабачка дзецям мяч,
Каб завяршыўся гэты матч.

## 4. Складаны трук

Трэніроўка на прыродзе
Па гімнастыцы праходзіць.

На палянцы акурат
Паказаў Васіль шпагат.

Васілінка за асфальтам
У паветры робіць сальта.

Тут прыбег казёл здаля,
Кінуўся на Васіля.

А хлапчук заплюшчыў вочы —
Праз казла ўміг пераскочыў.

Хваляць Васю: «Наш сябрук
Паказаў складаны трук!»



*Працяг у наступным нумары.*

## Падбяры для кожнай рыбкі адпаведны абрыс




## Анекдоцік

— Спадзяюся, ты памыў рукі? — пытаецца маці перад абедам у сына.

— Так, мамачка, яшчэ ўчора! — радасна адказвае той.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Лабірынт «Цягнічок»




Склаў мастак Андрэй СКРЫННІК.




Міні-комікс Ганны КІСЛУШЧАНКІ.




## Пра Алеську

Алеська хадзіла ў грыбы.

Бацька знайшоў чорнага грузда і параіў:

— Патапчыся, дачушка, на гэтай палянцы, бо грузды любяць сямейкамі ў траве хавацца.

— Добра, татка!

Шмат груздоў стаптала ў траве руплівая грыбніца.



* * *

Алеська закрыла твар далонькамі і ходзіць па кватэры, плача. Але хітруе, падглядае скрозь пальчыкі, ці назірае хто. Убачыўшы бацьку, які збіраецца суцешыць яе, запальчыва абвяшчае:

— Не табе плачу, а маме!



* * *

Маці жартам спыталася ў Алеські, калі ж такая красуня замуж пойдзе.

— Як толькі школу скончу, дык адразу замуж і пабягу!

— І за каго ж ты пабяжыш?

— За Ілюшку Жукоўскага з сёмага паверха!

— А ці варта так спяшацца, дачушка?

— Варта! А то спазнюся, і ён мяне не возьме, — упэўнена адказвае малая.

**Запісаў Уладзімір СІЎЧЫКАЎ,**
*г. Мінск.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




# Не мая

## Гумарэска

Гэтае каханне было вялікім, нястрыманым. Упершыню я ўбачыў яе фотаздымак у інтэрнэце – і прапаў. Нават праз манітор свайго камп'ютара адчуў да яе прыхільнасць і сімпатыю. Яна была ідэальнай.

Аднойчы нават убачыў яе на вуліцы. Яна аказалася не зусім такой, як мне здавалася: мініяцюрная, шыкоўная – быццам бы ведала ўсе мужчынскія слабасці. Яе плаўны сілуэт і грацыёзныя формы хвалявалі сэрца. І тады мне стала зразумела: яна недасягальная. Хіба я, нейкі дробны, нязначны чалавек, змагу быць з ёй? Такой прыгажуні патрэбны багаты, статусны мужчына. «А можа?..» – прачнулася Надзея. «Не, не можа», – адказала Рэальнасць.

А потым я сустрэў яе з іншым мужчынам: ён весела ўсміхаўся, паклаўшы рукі на плаўны стан маёй мары. У звар'яцелай душы затаілася вялікае расчараванне. Ад салодкай мроі засталася адна толькі горыч.

Мінула некалькі гадоў. Я знайшоў сабе новую спадарожніцу. Дакладней, спадарожніка. Ён нязграбны, непрыгожы і даволі стары. Дарэчы, і пахне не зусім прыемна, але я прывык. З ім мне ўтульна і нясумна... Ах, мой любы, дарагі «Масквіч»!

А каханне да прыгажуні «Ferrari» знікла. Але хто перашкодзіць мне закахацца зноў?..

**Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*студэнтка 4-га курса факультэта беларускай і рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.*




# Трошкі памыліўся

Студэнты пачынаюць спаць,
Сон морыць так, хоць лопні ты:
Ім пра Купалу стаў чытаць
Іван Кузьміч Прыхлопнуты.

– Даклад заканчваецца мой,
Бо часу ўжо не маю.
А рэшту лекцыі сваёй
Я заўтра дачытаю...

Прыйшоў назаўтра, пастаяў
І ўсхліпнуў напаўголаса:
– Я ўчора лекцыю чытаў
Вам пра Якуба Коласа.

**Аляксандр КАЗЯЛКОЎ,**
*г. Маладзечна.*




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.

# Сакавіцкія смяшынкі

*Усе словы крыжаванкі пачынаюцца з літары С.*



**Па гарызанталі:**

**1.** Сялянскі «Camel». **4.** «А ... – быццам кветка\\ Ці крынічная вада» *(з верша Я. Мальца «Нешчаслівае каханне»).* **6.** Сакавік дрэвам ... пускае *(прыказка).* **9.** Міжнародны сігнал пра бедства суднаў ці самалётаў. **11.** Амаль сакавіцкі лядзяш, які знаходзіцца ў пячоры. **12.** Колер 2014 года – года Каня. **13.** «І ўсю ночку несціханы\\ Салаўіны ...» *(з верша М. Танка «У садочку май»).* **15.** «Сакавік, сакавік –\\ ... вывозіць грузавік.\\ Прамакаюць боцікі,\\ Расцвітаюць коцікі» *(з верша С. Грахоўскага «Сакавік»).* **16.** Абрадавае беларускае пітво: мёд, разведзены гатаванай вадой. **19.** «Сівы конь, сівы конь,\\ Залатыя ... .\\ Сяду, сяду ды паеду\\ Да сваёй каханкі» *(прыпеўка).* **20.** Цэлы дзень касіў ..., а за вечар каза з'ела *(прыказка).* **24.** Тэатральны работнік, які сачыў за выхадам акцёраў на сцэну *(устарэлае слова).* **26.** Белы снег, ды не ..., добры зяць, ды не сын *(прыказка).* **27.** Вясновая расліна-першацвет. **28.** «Свішча ..., і дзяцел клюе» *(з верша Я. Купалы «Вясна»).* **29.** «І ад бярозавага соку\\ Схмялелы крочыць ...» *(з верша Г. Кляўко «Чаканне вясны»).*

**Па вертыкалі:**

**2.** Тое, што і штабель. **3.** Колькасць «жаваранкаў» з цеста, што выпякалі для дзяцей на Саракі (22 сакавіка). **5.** «Ой, на азярыне ды на сіненькай,\\ Вясна красна на ўвесь ...» *(з валачобнай веснавой песні).* **7.** Рыбалоўная снасць. **8.** ... коп – не грошы, абы хлопец харошы *(прыказка).* **10.** За добрым гаспадаром і ... гаспадыня *(прыказка).* **12.** Жарт. **13.** Варона з кала – ... на кол *(прыказка).* **14.** Лубянка для ручной сяўбы. **17.** Небяспечнае інфекцыйнае захворванне. **18.** Адным словам: газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне... *(абрэвіятура).* **21.** Пачцівы зварот да мужчыны ў англамоўных краінах. **22.** Жалезныя вілы для накідвання гною. **23.** ... стараецца, а бацька ў вус пасміхаецца *(прыказка).* **24.** «Вясёлы ...,\\ Прыветлівы\\ Вады ў руччах\\ Пачуецца» (з верша Я. Коласа «Вясна»). **25.** Неабходны дадатак да скрыпкі.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Адказы**

**Па гарызанталі: 1.** Самасад. **4.** Суседка. **6.** Сок. **9.** СОС! **11.** Сталактыт. **12.** Сіні. **13.** Свіст. **15.** Снег. **16.** Сыта. **19.** Санкі. **20.** Сена. **24.** Сцэнарыус. **26.** Сыр. **27.** Сон. **28.** Салоўка. **29.** Сакавік.

**Па вертыкалі: 2.** Стос. **3.** Сорак. **5.** Свет. **7.** Сак. **8.** Сто. **10.** Свіння. **12.** Смяшынка. **13.** Сем. **14.** Сявенька. **17.** Сепсіс. **18.** СМІ. **21.** Сэр. **22.** Сахор. **23.** Сын. **24.** Спеў. **25.** Смык.


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 3 (1506), 2014 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.





**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Святлана ТАРГОНСКАЯ.



**Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, г. Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара – 288-24-62,***
***намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52,***
***бухгалтэрыі – 287-18-81,***
***факс – 284-84-61.***





Падпісана да друку 11.03.2014
Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,47. Тыраж 1747 экз.
Заказ 583.

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.




Малююць мастакі часопіса «Дадзіс» (Латвія)

Малюнак Н. ЛАЦЫСА, 1989 г.








Малюнкі А. ЛІЕПІНЬША, 1984 г.



Малюнак Т. СЕРГІЕНКІ, 1987 г.



Малюнак І. ДЗЕРКА, 1985 г.



Малюнак Т. СЕРГІЕНКІ, 1989 г.



Малюнак К. ЛІЕДЕ, 1991 г.

# Народ кажа...

## «Відаць па вочках, хто ходзіць па ночках»



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2014 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 19400 руб.,
індэкс 01380, цана 15500 руб.,
індэкс 748442, цана 52700 руб.,
індэкс 01381, цана 41500 руб.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

9 770132 595002 14003